681_632.qxd 11/25/2022 12:16 PM Page 1 (3,1)




# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 12(682)**
**Сьнежань 2022 г.**


# Віртуальная канфэрэнцыя па пытаньнях нацыянальнай сьведамасьці

У суботу, 12 лістапада, у віртуальным фармаце прайшла навуковая канфэрэнцыя "Беларуская нацыя вачыма дыяспары і суайчыньнікаў", што была падрыхтаваная Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Канадзе. Напачатку, з 1967 году, ён зьяўляўся канадыйскай філіяй навуковай і культурнай арганізацыі беларусаў паўночнай Амэрыкі – Інстытуту Навукі й Мастцтва (БІНіМ), заснавага ў Нью-Ёрку ў 1951 годзе, ля вытокаў якога стаялі Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч і Янка Ліманоўскі. Затым у 1968 годзе Інстытут у Канадзе быў зарэгістраваны як асобная арганізацыя, БІНіМ-Канада, і ад таго часу ён працягваў, у супрацы зь БІНіМам у ЗША, дасьледваньне і падтрымку беларускай культуры ў Канадзе і на паўночна-амэрыканскім кантынэнце. Канфэрэнцыя была прымеркаваная да 55-годзьдзя БІНіМ у Канадзе і 10-годзьдзя часапісу "Культура. Нацыя", які выдае сп. Пётра Мурзёнак.

Канфэрэнцыю адчыніў уступным словам сп. П. Мурзёнак, адзначыўшы, што ён у студыі спадарства Караткевічаў і прывітаўшы ўсіх прысутных і зацікаўленых людзей, што мелі мажлівасьць назіраць ход канфэрэнцыі ў адмысловым канале на Ютубе. Першым прамоўцам у праграме стаяў вядомы паэт і грамадзкі дзеяч сп. Сяргей Панізьнік з дакладам да 140-годзьдзя вялікага нашага паэта Янкі Купалы. Нажаль, сп. Панізьнік захварэў і ня змог прысутнічаць, і тады сп. Мурзёнак прачытаў свой верш, прысьвечаны Купалу, які называецца "Песьняру".

Затым слова для дакладу было прадстаўлена сп. Вадзіму Шышко, земляку сп. Мурзёнка з Пастаўскага краю. Тэма дакладу – вытокі зьяўленьня нацсьведамасьці й чыньнікі, што ўплываюць на яе. Сп. В. Шышко даў фрамулёўку нацыяналізму як "групавой барацьбе за выжываньне нацгрупы, якая падмацоўваецца ідэалёгіяй". Інфармацыя – форма жыцьця, што існуе на падставе мозгу. "Звычайнае жывёльнае лягічнае мысленьне" – больш нізкая форма мысленьня. Нацыя прадстаўляецца як уяўленая супольнасьць, па фармулёўцы антраполяга Бэнэдыкта Андэрсана. Нацыянальная сьведамасьць закладаецца праз адукацыю і мову, і яны зьяўляюцца асноўнымі чыньнікамі ў фармаваньні сьведамасьці. У беларускім выпадку атрымліваецца, што нацыя апынулася пад татальнай культурнай дамінацыяй суседа, які ў дадатак лічыць тэрыторыю Беларусі сваёй. І тут менавіта свая мова можа і мусіць быць сродкам абароны ад экспансіі й дамінацыі суседа. Тут дадаецца яшчэ значаньне гісторыі. Падкрэсьліваліся словы Фрыдрыха Ніцшэ, што "ніколі ня выжыве народ, які ўспрыймае сваю гісторыю ў трактоўцы суседа". Чыньнікі ўплыву для нацыянальнай сьведамасьці цяпер неспрыяльныя. Адзіны спосаб зьмены сытуацыі ў Беларусі, на думку аўтара дакладу, узброенае паўстаньне. Параза Расеі ў вайне супраць Украіны паўплывае пазытыўна на беларускую сытуацыю, але могуць узьнікнуць непрадбачаныя абставіны. На думку сп. Вадзіма Шышко, у адказ на

*працяг на бачыне 2*





## Выйшаў у сьвет чарговы выпуск за 2022 год літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа

## "БЕЛАРУС"

Аўтары і фундатары выданьня атрымаюць нумар па пошце самымі першымі, а іншых нашых прыхільнікаў просім падтрымаць аўтараў і выдаўцоў сваімі замовамі і зацікаўленасьцю. Нагадваем, што альманах друкуецца толькі дзякуючы падтрымцы чытачоў і фундатараў.

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**.

Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца **Marat Klakotski**.

Замовіць новы нумар, як і ўсе папярэднія, можна і праз інтэрнэт, наведаўшы старонку ***e-krama.com***.

681_632.qxd 11/25/2022 12:16 PM Page 3 (1,2)



# Канфэрэнцыя...

*працяг з бачыны 1*




пытаньне які ўзровень нацсьведамасьці на скалі зь 10 пунктаў, – кажа, – 3-4 пункты. На пытаньне пра падзеі 2020 году ён адказаў, што гэта была хутчэй пратэставая (непрыняцьце Лукашэнкі) рэвалюцыя, чым нацыянальная.

Потым з дакладам выступіў сп. Лявон Карповіч з Лунай Волі, сам родам з Ваўкавыску, працаваў настаўнікам матэматыкі. Тэма ягонага дакладу – "Нацыянальная самасьвядомасьць у сьвятле маралі, міласэрднасьці і любові". Праблема нацыянальнай сьведамасьці ўзьнікае тады, калі ўзьнікае нацыянадьнае адраджэньне. Сьведамасьць узьнікае як вынік пільнай працы, а не аўтаматычна, сама па сабе. Прамоўца даў кароткі агляд разьвіцьця падзеяў у галіне сьведамасьці з найноўшай гісторыі Беларусі і, не называючы імёнаў, скрытыкаваў шэраг палітыкаў беларускай апазыцыі, што ня здолелі дайсьці да сэрца і душы народу, каб перакацаць і натхніць яго. Прамоўца падкрэсьліў, што толькі мараль, міласэрднасьць, любоў могуць ўратаваць і забясьпечыць разьвіцьцё нацыі. Ён таксама заўважыў, што "для многіх лідэрства – гэта наркотык", і некаторыя займаюць лідэрскія пазыцыі менавіта каб чуцца лідэрам, незалежна ад вынікаў. Ён таксама згадаў пра народны гімн – у нас "катастрофа з гэтым". Хто засьпявае так, каб і акадэмік, і селянін, і ваяр, і працаўнік падцягнулі сьпеў – так як Адам Міцкевіч у "Дзядах" апісваў? Украінцаў цяпер яднае менавіта іхны гімн. Падзеі 2020 году – "белы сьцяг Ціханоўскай быў акроплены крывёй народу", і так наш Бел-Чырвона-Белы сьцяг быў пацьверджаны новым пакаленьнем. Прамоўца таксама распавёў пра паштовыя маркі як чыньнік нацыянальнай сьведамасьці, і тая першая беларуская марка з 1918 году, нават выданая за межамі – стала сьведчаньнем нашай прысутнасьці, існаваньня сваёй адмысловай краіны. У пытаньнях было ўзгадана, што сп. Карповіча нядаўна былі затрымалі за грамадзкую актыўнасьць, адбыўся суд і прысудзілі штраф. На думку дакладчыка, моладзь бачыць будучыню і нацыянальнае разьвіцьцё пазытыўна, асабліва пасьля 2020 году.

Затым выступіла сп-ня Алена Лявончанка з Таронта і талкова распавяла пра "Практычны досьвед разьвіцьця беларускай дыяспары". Сп-ня Лявончанка зьяўляецца старшынёй Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК). Яна адзначыла, што пры стварэньні арганізацыі – заўсёды трэба мець перад сабой адказ на пытаньне "навошта" і мець візыю. Таксама важная каманда арганізатараў. Рэглямэнт і правілы дадаюцца як тэхнічны аспэкт. Затым запрашаюцца сябры, ключавы рэсурс для кожнай арганізацыі. Самае важнае – праблема пераемнасьці пакаленьняў, і многія арганізацыі не перажываюць гэта, проста зьнікаюць. ЗБК існуе з 1948 году, і актыўная праца працягваецца дасюль. Каманда актывістаў – гэта вызначальны чыньнік, "ніколі не ахвяраваць адносінамі паміж сябрамі на карысьць вынікаў". Трэба даць кожнаму мажлівасьць абраць свой кшталт працы, сваю тэму. Калі ўзьнікае канфлікт – заўсёды памятаць, як гэта ўплывае на візыю, на мэты. Канешне, арганізацыя, самакіраваньне – гэта практычны досьвед дэмакратыі. Прамоўца прывяла прыклады зь нядаўняй дзейнасьці ЗБК, такіх як беларускі аўтапрабег, марш нацыянальнасьцяў, выступы фальклорнага гурта Віялеты Кавалёвай "Яваровы людзі", правядзеньне Купальля.

Удзельнікі й гледачы зь цікавацью праслухалі даклад "Беларуская дыяспара ў Бразіліі: Трансфармацыя 2020" Вольгі Ермалаевай-Франко, якая жыве з 2011 году ў Бразыліі, якая вучылася ў БДУ і ў ЭГУ па спэцыяльнасьці журналістыка. Яна цяпер вучыцца на ўнівэрсытэце Байі (Bahia), перакладае з і на партугальскую, ладзіць разнастайныя культурніцкія праекты. У сваім выступе прамоўца закранула гісторыю міграцыі беларусаў у Бразылію. Перш ішлося пра стварэньне ўкраінска-беларускіх арганізацыяў, бо ўкраінцы былі бліжэйшыя да нас па ўспрыманьні, лёсе. І гэта характэрна для ўсёй Лацінскай Амэрыкі. У 2000-2020 праз іміграцыйныя службы прайшло 265 грамадзянаў Беларусі, праўда, ня ўсе зь іх прыехалі на сталае жыхарства. Прамоўца распавяла пра свае праекты, такія як Vulica Brasil, стрыт-арт-фэст і Тэатральны Куфар – студэнцкі фэст тэатру. Таксама сярод кантактаў можна згадаць футбол – 35 бразільскіх футбалістаў гулялі ў розных беларускіх камандах на чэмпіянатах Беларусі. Пачаткі нядаўняй дзейнасьці ў Бразыліі – у акцыях салідарнасьці, найперш праз віртуальныя чаты, бо бальшыня людзей расьцярушаныя па краіне. Ажыцьцяўляюцца кантакты зь беларускімі дыяспарамі Партугаліі (на падставе мовы і сувязяў дзьвюх краінаў) і Паўночнай Амэрыкі (чыньнік – геаграфія). Тут намацваюцца інфармацыйны, культурны і акадэмічны кірункі. Ажыцьцяўляецца праект Народная Амбасада, падрыхтаваны офісам С. Ціханоўскай і Каардынацыйнай Радай. Ідзе тлумачальная праца з кампаніямі, што купляюць беларускія вырабы і сыравіну (калійныя ўгнаеньні), але пакуль бяз посьпеху. Калі адзін з унівэрсытэтаў Бразыліі навязаў кантакт з БДУ – была скантактаваная студэнцкая рада ўнівэрсытэту і паведамлена пра становішча ў Беларусі. Прайшла выстава "Ў дэмакратыі жаночае аблічча", дзе былі інсталяцыя – турэмная камэра і фатаздымкі з падзеяў у Беларусі ў 2020 годзе. Людзі на хэпэнінгу праз Гугель перакладалі й падпісвалі па-беларуску паштоўкі для палітзьняволеных. Ёсьць сьведчаньні, што яны дайшлі, у тым ліку Ціханоўскаму – зь відэа як танчыць самбу. Вітальд Ашурак, як відаць з ускосных сьведчаньня, атрымліваў нашыя паштоўкі, але ня змог адказаць. На выставе быў фрагмэнт ліста палітзьняволенай Аланы Гебрэ Марыям. Дэманстраваліся вершы вязьняў (Сырамалотавай, М. Знака), пераклады іх на партугальскую. Казка Аны Марыі Машаду "Жыў-быў тыран" была перакладзеная па-беларуску. Цяпер да дзейнасьці таксама дадалася падтрымка Украіны. "Працуе чытацкі клюб С. Алексіевіч, даносім ейны беларускі кантэкст, бо часам ня ўсе бачаць яе сувязь зь Беларусьсю". Праводзяцца паэтычныя вечарыны. Сёлета прайшла першы раз "Ноч (Не)Расстраляных Паэтаў". Цікава, што бразільскі паэт Луіс Леаль (Luiz Leal) напісаў па-ангельску Acrostic to Belarus, дзе першыя літары радкоў даюць покліч "Жыве Беларусь".

Затым з дакладам "Дынаміка фактараў нацыянальнага ўплыву на нацыянальную сьведамасьць пачатку 21 ст." выступіў сп. П. Мурзёнак. Прамоўца прагназуе, што наступае спрыяльны пэрыяд для нацыянальнай сьведамасьці. Цэлы час назіраюцца фазы спад-пад'ём.

*працяг на наступнай бачыне*

681_632.qxd 11/25/2022 12:17 PM Page 3 (3,2)



Статыстыка адсотка беларускага этнічна насельніцтва і адсотка носьбітаў мовы – першы расьце, другі падае, але істотная мона-нацыянальнасьць дзяржавы ёсьць фактар пазытыўны. Уплыў, што наймацнейшы цяпер – гэта найперш культура "рускага міру". Пратэсты 2020 году мелі дэмакратычны, але не нацыянальны характар. Разам з тым нацыянальным сілам варта аб'яднацца вакол С. Ціханоўскай, бо гэта, відаць, адзіны рэальны фокус яднаньня на сёньня. Цяпер Каардынацыйная Рада пашыраецца да 115 чалавек, і ў ёй трэба ўдзельнічаць. Даюць надзею таксама ўзброеныя беларускія сілы ва Ўкраіне, гэта хіба першыя цалкам нацыянальныя сілы. Быў зроблены кароткі аналіз разьвіцьця Беларусі пасьля здабыцьця незалежнасьці ў параўнаньні з Украінай. Толькі адны выбары ў Беларусі прайшлі ў 2 туры, а ва Ўкраіне 7 зь 9. Параўнаньні з Украінай важныя і сэнсоўныя, бо мы зь імі – "заходне-рутэнская цывілізацыя". Але нам усім трэба быць гатовымі да разьвіцьця нечаканых падзеяў.

Другая сэкцыя канфэрэнцыі адчынілася выступам Уладыкі Сьвятаслава, Архіяпіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) пра ролю царквы ў мацаваньні нацыянальнай сьведамасьці. У Беларусі царква заміж інструмэнта гадаваньня нацыянальнай сьведамасьці ёсьць насамрэч начыньнем русіфікацыі. Вера ў Бога мусіць быць спалучаная зь любоўю да сваёй зямлі. Нацыянальныя адрознасьці беларускай царкоўнасьці – архітэктура, форма крыжа, сьвяты, асаблівасьці іканапісу. Нажаль, у Беларусі цяпер яны ўсяляк гамуюцца, цэрквам надбудоўваюць залатыя цыбуліны нехарактэрныя для беларускай традыцыі. Уладыка Сьвятаслаў падкрэсьліў, што ягонай Царквой была вынесеная Анатэма самазванаму дыктатару Лукашэнку. На пытаньне ад сп. Юркі Рапэцкага пра суполкі БАПЦ у падпольлі ў Беларусі Ўладыка Сьвятаслаў адказаў: "КГБ пра іх ведае, але ня хочуць згадваць БАПЦ, каб не надаваць цікавасьці ў народзе, хоць і сьвятар цяпер знаходзіцца ў зьняволеньні".

Наступным быў выступ Дэвіда Марплза з Унівэрсытэту Альбэрты ў Эдмантане на тэму "Амбівалентная роля "вялікай айчыннай вайны" ў фармаваньні гістарычнай памяці й нацсьведамасьці ў сучаснай Беларусі". Прамоўца падкрэсьліў выкарыстаньне міталягізаванай гісторыі савецка-нямецкай вайны, або Вялікай Айчыннай Вайны (ВАВ), як інструмэнту ўзьдзеяньня на грамадзкую сьведамасьць у Беларусі. Падобнае таксама адбываецца і ў Расеі, дзе на вайне пабудаваны наратыў магутнасьці й славы. Беларускі рэжым выкарыстоўвае вайну для падкрэсьленьня ксэнафобіі, нібыта заўсёднай варожасьці Захаду, што таксама робіцца праз маніпуляцыі ў адносінах колькасьці загінуўшых і падвышэньне ацэнкі загіблых з 2,2 да 3 мільёнаў. Сюды таксама можна дадаць мэмарыяльныя комплексы Хатынь, Брэсцкая крэпасьць і Лінія Сталіна. На гэта ж скіраваны перанос Дня Незалежнасьці з 27 ліпеня на 3 ліпеня. Былі збудаваныя новы Музэй ВАВ, Трасьцянец. Архівы, датычныя Дугой сусьветнай вайны ў Беларусі, былі зачыненыя ў 1994 годзе. Працягваецца "інтэграцыйная" гульня з Расеяй. Прыняты закон пра "генацыд беларусаў", што ўводзіць адказнасьць за адмаўленьне таго, што мэтай нямецкага генацыду ў Беларусі былі беларусы (а ня, скажам, гэбраі). Лёзунг "Жыве Беларусь" забаронены як "нацыстоўскі покліч". Цяперашняя сытуацыя ўскладнілася з пачаткам узброенай агрэсіі й вайны Расеі супраць Украіны. Назовы "фашызм", "нацызм" набываюць новыя сэнсы. Але ўкраінцы ня хочуць правакацыяў ад рэжыму Лукашэнкі й спадзяюцца на ягоны нэйтралітэт, таму яны так і не прызналі офісу Ціханоўскай. Параза Расеі ва Ўкраіне, безумоўна, таксама аслабляе рэжым Лукашэнкі.

Сп. Юрка Рапэцкі задаў вельмі спэцыфічнае пытаньне: "Did your research show that Belarusans are different from Russians?" Адказ: "Yes. Maybe it's generational. Belarus is being bombarded by Russian TV, and "Belarusian" TV is a form of Russian media as well. But still the young don't buy it? Their main source of information is the Internet. It all begins to change, but will take a long time. Now everyone under 35 seems to want to speak Belarusan. The year 2020 marked a turning point."

Затым быў выступ Алеся Сімакова з Гомелю, на тэму "Беларуска-індзейская кампаратывістыка: найважнейшыя неэтнаграфічныя рубрыкі". Прамоўца спрабаваў накрэсьліць паралелі паміж беларусамі й індзейцамі Пайночнай Амэрыкі, якіх у Канадзе сталі называць "першасныя нацыі" (First Nations). Ён заклікаў не ўспрымайць ягоны даклад як экзотыку. На думку прамоўцы, сэнс кампаратывістыкі заключаецца ў наступным: "Чым мы больш адрозьніваемся ад эўрапэйскага каляніяльнага стаўленьня, тым больш зацікаўленасьці да нас збоку сусьветнай супольнасьці".

З дакладам пра жыцьцё і дзейнасьць Янкі Запрудніка (1926-2022), беларускага гісторыка і грамадзкага дзеяча ў ЗША, выступіў сп. Віталь Зайка. Ён накрэсьліў асноўныя факты з жыцьця Янкі Запрудніка і адзначыў, што ён быў адным зь нешматлікіх беларускіх гісторыкаў, што атрымалі адукацыю на Захадзе й імкнуліся перанесьці цэнтар сыстэмы каардынатаў разгляду беларускай гісторыі менавіта ў Беларусь. Гэтага асабліва бракуе, калі заходзіць гаворка пра дзеячаў беларускай паваеннай эміграцыі, якія, па савецкай тэрміналёгіі, "ушлі зь немцамі". Прамоўца таксама падкрэсьліў вартасьць досьледу Я. Запрудніка пра гісторыю Беларусі з пэрыяду Дзярждумаў Расейскай імпэрыі. Вядучая сэкцыі, сп-ня Натальля Баркар дадала, што сп. Янка Запруднік у сваe 92 гады яшчэ выдаў кнігу і гэткая актыўнасьць сапраўды ўражвае.

Пасьля з дакладам выступіў Радаслаў Калета з Варшаўскага ўнівэрсытэту на тэму "Беларуская мова, літаратура, культура ў найноўшых падручніках для дзяцей беларусаў Падляшша". Зьяўляючыся, між іншага, спэцыялістам у глотадыдактычнай лепсалёгіі, адной з прыкладных плыняў лінгвістыкі, прамоўца прааналізаваў становішча беларускага

*заканчэньне на бачыне 4*




Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне
"ПАГОНЯ"
Каляндар на 2023 год



## Шаноўныя сябры!

Разам са сьнежаньскім нумарам інфармацыйнага бюлетэня "Весткі й Паведамленьні" ўсе падпісчыкі атрымаюць таксама **каляндар Згуртаваньня "Пагоня" на 2023 год**. Тыя асобы, хто захоча мець больш чым адзін асобнік гэтага календара, могуць яго замовіць на сайце *e-krama.com*.

Кошт аднаго календара разам з дасылкаю ў межах ЗША **$15**, з дасылкаю ў Канаду **$17**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$20**.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski/ P. O. Box 3225/ Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя **Marat Klakotski**.

681_632.qxd 11/25/2022 12:16 PM Page 1 (1,1)



# Жэрдкі ў плоце

## Карысная крытыка

Калі паўстае пытаньне крытыкаваць ці патураць, то я схіляюся ўсё ж да першага.

Ты тут наважыўся сказаць свой першы сказ па-беларуску, а табе дзесяць заўвагаў у адказ. Ну і што. Раней жа ты маўчаў... Гады назіраньняў і паглыбленьня ў беларускую культуру падказваюць, што на нашай глебе, у нашых абставінах, з нашым мэнталітэтам крытыка дае лепшы плён. Бывае нехта абразіцца і нават на нейкі час адвернецца, але мэнталітэт спрацоўвае так, што як правіла, пад уплывам канструктыўнай, а часам нават і даволі рэзкай крытыкі, пачынаюцца сапраўдныя пераўтварэньні. І можа, недзе там, лепш спрацоўвае пагладжваньне па галоўцы, але ня ў нас, ня ў гэтых шыротах, не з такім гістарычна-культурным багажом. Ну давайце-давайце, крытыкуйце.

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Канфэрэнцыя...

*заканчэньне з бачыны 3*

школьніцтва і навучальныя выданьні аб'еднаньня АБ-БА. Ён згадаў мэтодыку навучаньня, і тэатральны гурток Аліны Ваўранюк як эфэктоўны дапамаговы сродак. Закрануў таксама "Падляскія кронікі" – успаміны падляскіх беларусаў, "пераказы на той мове, на якой іх пачуў". Згадаў таксама такія праекты, як Басовішча і Вільлю Сакратас, часапіс "Часопіс" (Czasopis). Удзельнікі таксама маглі пабачыць узоры падручнікаў. Там вельмі шмат сучасных аўтараў: У. Някляеў, Л. Урублеўская, Р. Барадулін, В. Шніп.

Затым увазе прысутных прапанаваў свой даклад прафэсар унівэрсытэту Байі ў Бразыліі Патэрсан Франка Кошта (муж папярэдняй выступоўцы, Вольгі Ермалаевай-Франка). Сваімі навуковымі зацікаўленьнямі ён назваў посткаляніяльную культуралёгію і інтэр-сэміятычныя пераклады. На выдатнай беларускай мове, зь ледзь заўважным акцэнтам, праф. Франка распавёў пра стан ведаў пра Беларусь у Бразыліі, закрануў свае публікацыі і пераклады. Цікава, што ён пачаў прамову са слова "ані" – "прывітаньне!" на мове племя алганкінаў Отава, што далі назву сталіцы Канады. Ён таксама працытаваў бразыльскую пісьменьніцу Нэўзу Сантус Соўза – "Адзін са спосабаў праявіць аўтаномію – мець дыскурс пра самога сябе". Затым ён распавёў пра досьледы, зьвязаныя зь Беларусьсю, у Бразыліі. Выйшла ягоная кніга Cinema em Exilo. Traducao e politica em Belarus pos-sovietica ("Кіно ў выгнаньні: пераклад і палітыка ў пост-савецкай Беларусі"). Была згаданая выстава Саўвадор (горад у Бразіліі) Беларусь – Salvador Belarus. У канцы ён дадаў, што ў навуковым сэнсе цікава было б разгледзець уключэньне пост-савецкай прасторы ў поле разгляду пост-каляніяльных досьледаў.

І затым быў прадэманстраваны фільм адсутнага сп. Юрыя Мурога з Кіева пра курганы і ўплыў на працяг беларуска-ўкраінскай традыцыі. Украіна – краіна курганоў. Цікавая новая трактоўка назвы сталіцы Украіны па-беларуску – "Кыеў", "у Кыеве".

У наступным дакладзе сп-ня Натальля Баркар распавяла пра часапіс "Культура. Нацыя", да 10-годзьдзя выхаду першага нумару ў сьнежані 2012, і да 55-годзьдзя БІНіМ-Канада. Яна прааналізавала тэматыку і аўтарскі склад выданьня. За гэты час выйшла 30 нумароў, і часапіс перш называўся "Сакавік". У яго ёсьць ISSN-нумар. У Сяргея Панізьніка было 37 публікацыяў у часапісе, у Ігара Пракаповіча з Паставаў – 25, у Ірыны Хадарэнкі – 10, у Леаніда Карповіча – 6. Інфармацыі пра часапіс і перадачы былі на радыё Рацыя, Белсаце. З 2021 году часапіс выходзіць пад эгідай БІНіМ-Канада. На сайце часапісу было 29 тыс. наведваньняў з больш як 10 краінаў.

Затым адбылося паседжаньне круглага стала пра ролю дыяспары ў фармаваньні нацыянальнай сьведамасьці і пра мажлівасьці ў цяперашніх умовах на Бацькаўшчыне для дапамогі культурным патрэбам беларускага замежжа.

Безумоўна, канфэрэнцыя стала важным і патрэбным абмеркаваньнем беларускага жыцьця на чужыне і на Бацькаўшчыне, і можна толькі падзякаваць і пажадаць плёну і будучых посьпехаў арганізатарам: Натальлі Баркар, Алене Лявончанка, Аляксандру Каралькевічу, Юрасю Рапэцкаму і Пётры Мурзёнку. Да віртуальнага фармату правядзеньня канфэрэнцыяў і сустрэчаў трэба прыглядзецца ўсім беларускім актывістам, як на Бацькаўшчыне так і ў замежжы.

**Віталь ЗАЙКА**

### Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

Д. Манчук ................60

**Шчыры дзякуй!**

### Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"**
***Viktar Yedzinovich.***

### Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоняй", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

Д. Манчук ................30

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь **"Весткі й Паведамленьні"** можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*